# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

№ 7 (2305) 18 лютага 1993 г. Выдаецца з 1955 г.


НА ЎСЕБЕЛАРУСКАЙ КАНФЕРЭНЦЫІ ГІСТОРЫКАЎ

## НЕ ПЕРАПІСВАЦЬ, А СТВАРАЦЬ НАЦЫЯНАЛЬНЫ ЛЕТАПІС

У сённяшнім абвальным і зацяжным да непрадказальнасці крызісе ўсе сферы жыццядзейнасці нашага грамадства знаходзяцца ў напружаным рэжыме выжывання. Ды, відаць, найбольш складаную часіну перажываюць гістарычная навука і гістарычная адукацыя. Да гісторыкаў асаблівыя прэтэнзіі і патрабаванні: падняць, адрадзіць з руінаў таталітарызму і палітычных дагматаў гістарычную праўду беларускага народа. Бо менавіта яны, гісторыкі, могуць і павінны ўнесці свой важкі ўклад-ісціну ў справу нацыянальнага і духоўнага адраджэння Бацькаўшчыны. Дзеля гэтай і іншых задач з 3 па 5 лютага ў Мінску працавала Усебеларуская канферэнцыя гісторыкаў *"Гістарычная навука і гістарычная* адукацыя ў Рэспубліцы Беларусь (новыя канцэпцыі і падыходы)".

Ініцыятыва яе склікання належала факультэту гісторыі Беларускага дзяржаўнага універсітэта і Інстытуту гісторыі АН Беларусі.

— Час дыктуе свае ўмовы гістарычнага даследавання, вывучэння і выкладання гісторыі. Канферэнцыя выклікана пераходам грамадства з аднаго стану ў другі, утварэннем нашай незалежнай дзяржавы, неабходнасцю абмеркаваць праблемы гісторыкаў, — сказаў на прэс-канферэнцыі, прысвечанай гэтай падзеі, дэкан факультэта гісторыі БДУ кандыдат гістарычных навук П. Шупляк.

Там жа на сустрэчы з журналістамі сваё меркаванне выказаў і дырэктар Інстытута гісторыі член-карэспандэнт АН Беларусі М. Касцюк:

— Прафесійныя гісторыкі нясуць вялікую адказнасць. Раней гісторыя Беларусі асвятлялася з любога пункту гледжання, толькі не з нацыянальнага. Цяпер жа мы павінны стварыць нацыянальную канцэпцыю, дзе на першым месцы знаходзілася б гісторыя беларускага этнасу. І беларускай дзяржаўнасці, але ж пачынаючы не з 1919 года, а з часоў Вялікага Княства Літоўскага. І рабіць гэта трэба не ствараючы новыя міфы. Аб'ектыўнасць і яшчэ раз аб'ектыўнасць...

Для правядзення канферэнцыі быў створаны арганізацыйны камітэт, які ўзначальваў намеснік старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь М. Дзямчук. (Варта нагадаць, што беларускія гісторыкі збіраліся апошні раз адно ў 1961 годзе). Да аргкамітэта далучыліся і спонсары: Міністэрствы замежных спраў і інфармацыі Рэспублікі Беларусь, Саюз "Інтэлект", Мінскія прадпрыемствы "Мілавіца" і "Зеніт-91".

На пачатку пасяджэнняў беларускіх гісторыкаў віталі міністр адукацыі В. Гайсёнак, намеснік старшыні Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны А. Трусаў, дырэктар Нацыянальнага навукова-асветніцкага цэнтра імя Ф. Скарыны А. Мальдзіс.

Мушу прызнацца: няўдзячная гэта справа пісаць кароткую справаздачу інфармацыйнага характару аб такой важкай і змястоўнай падзеі, якая ў многім вызначыць на будучыню накірунак развіцця гістарычнай навукі. У канферэнцыі, якой пры завяршэнні быў нададзены статус кангрэса, бралі ўдзел каля 350 чалавек з 16 вышэйшых навучальных устаноў рэспублікі, спецыялісты з архіваў і музеяў, вайскоўцы, святары розных канфесій, вучоныя з Германіі, Галандыі, Польшчы і Кітая. На дзесяці тэматычных секцыях былі прачытаны і абмеркаваны 75 дакладаў і 111 паведамленняў па самых розных праблемах як сусветнай, так і гісторыі Беларусі. І, безумоўна, ніякая статыстыка і апісанне не здольныя перадаць вастрыню навуковых дыскусій, а страсці не заціхалі, як кажуць, у кулуарах. Урэшце, усё паказвае на тое, што няпростым будзе той "накірунак развіцця"..

**(Заканчэнне на 4-й стар.).**



**Наш зямляк Барыс Кіт даўно і шырока вядомы ва ўсім навуковым свеце, і толькі Беларусь, дзе ён нарадзіўся і ўзгадаваўся, сёння адкрывае для сябе ў яго асобе вучонага з сусветным імем, шчырага патрыёта Бацькаўшчыны, шчаслівага тым, што мае магчымасць прынесці карысць роднаму краю.**

**НА ЗДЫМКУ: цырымонія перадачы архіва Барыса Кіта Навагрудскаму краязнаўчаму музею ў Міністэрстве замежных спраў Рэспублікі Беларусь.**

**Фота А. НІКАЛАЕВА.**

*(Матэрыял "Вярнуць Барыса Кіта ў нашу акадэмію" чытайце на 4-й стар.).*

## ЛЕАНІД ШЧАМЯЛЁЎ ВЫЗНАЧАЕЦЦА СВАІМ КОЛЕРАМ, СВАЁЙ ПЛАСТЫКАЙ, КАМПАЗІЦЫЙНЫМІ ПРЫЁМАМІ



**У любым юбілеі прысутнічаюць і пераплятаюцца два матывы, дзве асноўныя ноты — радасць ад віншаванняў, падарункаў, цёплых слоў і шчырых пажаданняў і лёгкі сум, які пакідае доўгае, хай і плённае жыццё. А якая нота будзе больш гучнай, залежыць ад таго, як юбіляр пражыў папярэднія гады. Не ведаем дакладна, што думаў 5 лютага вядомы беларускі мастак Леанід Шчамялёў, але да свайго 70-годдзя ён атрымае важкія набыткі: у мінулым годзе мастак быў названы Чалавекам года, у дзень юбілею ў мінскім Палацы мастацтваў адкрылася яго персанальная выстава. Думаецца, што гэтыя падзеі парадавалі не толькі Леаніда Шчамялёва, але і ўсіх тых, хто захапляецца яго творчасцю.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

**(Інтэрв'ю з Леанідам ШЧАМЯЛЁВЫМ "Карціны павінны жыць і радаваць" змешчана на 6—7 стар.).**

# НЕ ПЕРАПІСВАЦЬ, А СТВАРАЦЬ НАЦЫЯНАЛЬНЫ ЛЕТАПІС

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Я ўпэўнены, што кампетэнтны аналіз матэрыялаў канферэнцыі, зроблены з цягам часу, будзе яшчэ не раз гучаць і на старонках нашай газеты. Да таго ж у чытача ёсць мажлівасць самому пазнаёміцца з тэзісамі выступленняў, ужо выданымі ў двух тамах. А пад канец года — з дакладамі, якія запланавана надрукаваць, на што і выдаткуюцца тры мілёны рублёў.

Адзначу толькі, што на секцыі "Гісторыя Беларусі пасляваеннага часу. Беларуская дыяспара" разглядаліся некалькі дакладаў і паведамленняў, падрыхтаваных Інстытутам гісторыі і звязаных з мінуўшчынай і сучаснасцю суродзічаў "бліжняга замежжа", беларускай эміграцыі ЗША, Аргенціны, рэлігійным жыццём эміграцыі.

У апошні дзень работы Усебеларуская канферэнцыя гісторыкаў прыняла выніковы дакумент, у якім адзначаецца, што распрацоўка нацыянальнай канцэпцыі гісторыі Беларусі павінна засноўвацца на аб'ектыўным дакументальным падыходзе, на прынцыпах плюралізму меркаванняў і метадалагічнага стаўлення, дэідэалагізацыі і дэпартызацыі гістарычных даследаванняў, на грунце аднаўлення гістарычнай памяці народа. Між тым сказанае не выключае, а прадугледжвае разгляд айчыннай гісторыі ў кантэксце славянскай, еўрапейскай і сусветнай цывілізацый. Канферэнцыя падкрэсліла неабходнасць увядзення курсаў па гісторыі Беларусі ва ўсіх вышэйшых навучальных установах і выпрацоўкі дзяржаўнай праграмы фінансавання гістарычных даследаванняў. Навукоўцы звярнулі ўвагу заканадаўцаў на вялікую патрэбу ў прыняцці закона аб архівах. Без яго наўрад ці можна гаварыць аб высокай эфектыўнасці навукова-даследчыцкай працы. Была вынесена прапанова і аб вяртанні гістарычных дакументаў на радзіму.

Пералічаныя тэзы прымаліся без асаблівых заўваг. А вось пункт аб выкладанні гістарычных дысцыплін пераважна на беларускай мове выклікаў пярэчанні пэўнай, хоць і меншай, часткі прысутных і быў накіраваны на дапрацоўку і дадатковае ўзгадненне з літарай Закона аб мовах. (Асабіста я ніяк не магу зразумець, на якой жа мове павінна распрацоўвацца тады нацыянальная канцэпцыя і выкладацца нацыянальная гісторыя?).

Большасцю галасоў быў прыняты і Зварот да грамадзян Беларусі ў сувязі з 75-і ўгодкамі БНР.

Усебеларуская канферэнцыя прыняла статут і абрала рабочыя органы Асацыяцыі беларускіх гісторыкаў.

Не хацеў бы, каб у чытача, асабліва ў таго, хто жыве далёка ад Бацькаўшчыны, склалася ўражанне, быццам канферэнцыя — адзінае, што зроблена беларускімі гісторыкамі. Вядома ж не... Інстытут гісторыі АН Беларусі ўжо перадаў у выдавецтва "Нарысы па гісторыі Беларусі" ў дзвюх частках. Па дамове з Міністэрствам абароны падрыхтаваны пяць брашур з тэкстамі 30 урокаў па гісторыі Беларусі, якія будуць праводзіцца ў войску. Выходзяць некалькі гістарычных часопісаў. І што асабліва важна — ідзе актыўная работа над падрыхтоўкай падручнікаў па гісторыі Беларусі для школы. Але ж, канешне, асноўная гістарычная работа — наперадзе.

**Кастусь ШАЛЯСТОВІЧ.**

# ЗАЯВА

## РАДЫ ЗГУРТАВАННЯ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ "БАЦЬКАЎШЧЫНА"

**У ліпені 1992 года Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" ў адпаведнасці са сваім статутам, выступіла з ініцыятывай склікання ў 1993 годзе першага з'езду беларусаў свету. Правядзенне такога з'езду і далучэнне да яго самых шырокіх колаў грамадства, актыўны ўдзел урадавых структур мог бы паспрыяць умацаванню нашай беларускай дзяржаўнасці, пашырэнню ідэй дэмакратыі і нацянальна-культурнага адраджэння. Урадам Беларусі былі зроблены пачатковыя, хоць і сціплыя крокі ў гэтым кірунку.**

**На жаль, апошнім часам узніклі тэндэнцыі, што не могуць не трывожыць нас і ўсю нацыянальную інтэлігенцыю, якой не абыякавы лёс беларускага адраджэння. Газеты, заснавальнікам якіх выступае Савет Міністраў Беларусі ("Рэспубліка", "Советская Белоруссия" і іншыя дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі), рэгулярна змяшчаюць матэрыялы, накіраваныя супраць рэальнага станаўлення нашай незалежнай дзяржавы, за прыніжэнне, а то і выкараненне беларускай мовы. Не створаны ўмовы для працы ЗБС "Бацькаўшчына", да гэтага часу не вырашана пытанне з памяшканнем.**

**Урад, як і дэпутацкая група "Беларусь" у Вярхоўным Савеце, што цесна звязана з яго структурамі, паспрыяў рэанімацыі галоўнай антысацыяльнай сілы — КПБ, якая да таго ж заўсёды варожа ставілася да беларускага замежжа, унясенню ў праект будучай Канстытуцыі Беларусі палажэнняў, якія павялічваюць пагрозу ўзнікнення дыктатуры, заблакаванню народнай ініцыятывы рэферэндума.**

**Усё гэта ў значнай ступені ставіць пад сумненне магчымасць прыезду на першы з'езд беларусаў свету шматлікіх нашых замежных суродзічаў, якія непасрэдна звязалі і звязваюць наша нацыянальнае адраджэнне са спыненнем дзейнасці КПБ—КПСС — структуры былой імперыі.**

**У сувязі з вышэйсказаным, мы заклікаем урад Беларусі выкарыстаць увесь свой уплыў для таго, каб стварыць больш спрыяльную атмасферу для правядзення першага з'езду беларусаў свету. Гэты з'езд не можа адбыцца ў атмасферы антыбеларускай істэрыі, афіцыйнай падтрымкі сіл, што выступаюць супраць адраджэння нашай Бацькаўшчыны, яе культуры, мовы.**

**Аб'яднанне намаганняў у правядзенні з'езду патрэбнае і магчымае, калі ўрад Беларусі пачне дзейнічаць у адпаведнасці з дэклараванымі ім прынцыпамі.**

**Жыве Беларусь!**

*Прынята Радай ЗБС "Бацькаўшчына" 6 лютага 1993 г.*

# ВЯРНУЦЬ БАРЫСА КІТА Ў НАШУ АКАДЭМІЮ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

У пачатку лютага ў Міністэрстве замежных спраў Рэспублікі Беларусь адбылася цырымонія перадачы архіва Барыса Кіта. Навагрудскі краязнаўчы музей стаў уладальнікам шматлікіх дыпломаў вучонага, у тым ліку і дыплома ганаровага акадэміка міжнароднай акадэміі астранаўтыкі, манаграфій, кніг, фотаздымкаў, дакументаў, карцін, абразоў. І гэта пакуль што толькі частка архіўных матэрыялаў, перададзеных у наша пасольства ў Боне.

Беларус Барыс Кіт — аўтар першага ў свеце падручніка па ракетнай тэхніцы і ракетным паліве, ён удзельнічаў у пабудове першых міжкантынентальных ракетных сістэм ЗША, яго артыкулы друкаваліся ў розных міжнародных навуковых часопісах. Наш зямляк — сябра Амерыканскага астранаўтычнага таварыства, Брытанскага міжпланетнага таварыства, Нямецкага астранаўтычнага таварыства, камітэта гісторыі Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі (Парыж).

Здаецца, што прыйшоў час і Бацькаўшчыне па вартасці ацаніць свайго сына. Імя Барыса Кіта павінна быць вернута не проста на радзіму, а ў нашу Акадэмію навук. І пра тое, што сёння варта карэктна ставіцца да складанасцей жыцця, якія выпалі на долю такіх людзей, як Барыс Кіт, гаварыў на прэс-канферэнцыі міністр замежных спраў Беларусі Пётр Краўчанка. Як вялікую заслугу нашага земляка міністр адзначыў і тое, што ён вельмі многа робіць дзеля таго, каб на Беларусі адбылося адраджэнне нацыянальнай культуры, літаратуры, навукі, многае ім зроблена дзеля таго, каб пра нашу краіну ведалі ва ўсім свеце. Ён адзін са стваральнікаў згуртавання беларусаў у Саўт-Рыверы ў ЗША. Ён у ліку стваральнікаў беларускага музея з архівам, які адкрыты непадалёку ад Франкфурта-на-Майне ў горадзе Леймэне. Заснавальнікі музея пажадалі, каб ён стаў уласнасцю Беларусі, калі яна набудзе незалежнасць і свабоду.

Сам Б. Кіт, паўвека пражыўшы на чужыне, не страціў адчування Радзімы, не выракся яе мовы, ведае яе літаратуру і культуру. Больш таго, гатовы ўнесці і свой уклад у яе далейшае развіццё. Летам мінулага года Барыс Кіт пабываў на Навагрудчыне, адкуль ён родам, і цяпер выношвае думку аб стварэнні ў Навагрудку універсітэта ці хаця б беларускай гімназіі. Б. Кіт любіць усю Беларусь, але найбольш — навагрудскі край. Менавіта таму і пажадаў перадаць свой архіў на захаванне ў Навагрудскі краязнаўчы музей, адкуль за ім прыязджалі і прысутнічалі на цырымоніі перадачы дырэктар музея Тамара Вяршыцкая, старшыня Навагрудскага гарвыканкома Г. Бака.

Адам Мальдзіс адзначыў, што падзею перадачы архіва нашага земляка варта разглядаць як пачатак падрыхтоўкі да сусветнага форуму беларусаў, які мае адбыцца летам. Нашы землякі пакінулі значны след у многіх краінах свету, унеслі важкі ўклад у развіццё іх эканомікі, навукі, культуры. Ігнат Дамейка, Судзілоўскі, нашы сучаснікі — літаратуразнавец Пятроўскі, спевакі Конюх і Забэйда-Суміцкі, пісьменнікі, кампазітары — творчая спадчына кожнага з іх узбагаціць і дапоўніць духоўны набытак беларусаў, таму што нельга культуру, мастацтва, літаратуру дзяліць на тутэйшую і эміграцкую, гэта адно цэлае, створанае розумам і талентам беларусаў, незалежна ад таго, дзе яны жылі і тварылі. А. Мальдзіс паведаміў, што рыхтуецца даведнік "Беларусы ў свеце", які раскажа пра добрыя справы нашых землякоў, здзейсненыя ў розныя часы і на розных кантынентах дзеля прагрэсу, на карысць людзей. Прачытаўшы такі даведнік, можа і мы адчуем гордасць за сваю нацыю і будзем лепш ставіцца да саміх сябе.

У Міністэрстве замежных спраў у той дзень прысутнічалі людзі, якія маюць кантакты з Б. Кітам, перапісваюцца з ім, сустракаліся. Мастачка Раіса Сіплевіч сказала, што сустрэча з такім чалавекам — падарунак лёсу. Іх пазнаёміла Навагрудчына. Уражаная асобай Барыса Кіта, яна напісала яго партрэт, якім ён быў надзвычай задаволены і які таксама перадаў на захаванне ў Навагрудскі краязнаўчы музей.

У канцы мінулага года ў Германіі ў гасцях у Барыса Кіта пабывала старшы навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры АН РБ Лідзія Савік. Сустрэча з гэтым незвычайным чалавекам зрабіла на яе вялікае ўражанне. Лідзія Сямёнаўна была захоплена яго энергіяй, душэўнай маладосцю, закаханасцю ў сваю Бацькаўшчыну, жаданнем зрабіць для яе штосьці карыснае. Барыс Кіт варты таго, каб пра яго было сказана добрае слова, каб яго жыццё, яго работы сталі вядомымі беларусам і на радзіме, і за мяжой. Спадзяёмся, што ў бліжэйшы час атрымаем такі матэрыял ад Лідзіі Савік і пазнаёмім з ім нашых чытачоў.

**Д. ЧАРАПОВІЧ.**



Скавала льдом рачулку ціхую.

Фота М. ЖЫЛІНСКАГА.

# ПАЛІТЫЧНАЕ ЖЫЦЦЁ ПРАВІНЦЫІ

Працэс стварэння новых палітычных партый на Беларусі ідзе хуткімі тэмпамі. Не з'яўляецца выключэннем у гэтым плане і Жлобіншчына. Так, у лістападзе мінулага года тут была створана раённая арганізацыя Аб'яднанай аграрна-дэмакратычнай партыі. Яе ўзначаліў старшыня мясцовага калгаса "Прагрэс" Павел Руксаў. Сёння гэтую арганізацыю можна лічыць самай рэальнай палітычнай сілай на Жлобіншчыне.

Самай жа шматлікай палітычнай арганізацыяй, якая налічвае некалькі дзесяткаў чалавек у раёне на даны момант з'яўляецца гарадское аб'яднанне партыі камуністаў Беларусі. Але ў мясцовых прыхільнікаў камуністычнай ідэі, якімі кіруе пенсіянер Васілій Ткачоў, ёсць адзін значны недахоп: пераважная іх большасць — людзі пажылога ўзросту.

Маладых, палітычна актыўных людзей у Жлобіне аб'яднала гарадская рада Нацыянальна-дэмакратычнай партыі Беларусі, якая дзейнічае ўжо каля двух гадоў. Узначальвае яе намеснік дырэктара аднаго з камерцыйных прадпрыемстваў Мікола Ляўкоўскі. Але лічыць жлобінскіх нацдэмаў уплывовай палітычнай сілай пакуль не даводзіцца. Іх мала.

Ёсць на Жлобіншчыне і прадстаўнік Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады. Гэта выкладчык Чырвонабярэжскага саўгасатэхнікума дэпутат абласнога Савета народных дэпутатаў член Цэнтральнай Рады БСДГ Аляксандр Лабачоў. І тым не менш, нягледзячы на наяўнасць у раёне такога "тытулаванага" прадстаўніка сацыялістаў, больш прыхільнікаў гэтай ідэі тут не знаходзіцца.

**Мікалай ШУКАНАЎ.**

# ...І СНІЛІСЯ СНЫ АБ РАДЗІМЕ

## ДА ПЫТАННЯ АБ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ САМАСВЯДОМАСЦІ

У апошні час шмат гавораць аб нацыянальнай самасвядомасці, аб неабходнасці абуджэння і паглыблення яе ў беларусаў. І, сапраўды, праблема надзвычай актуальная. Толькі чалавек з развітай нацыянальнай самасвядомасцю можа асабліва плённа працаваць для ўмацавання незалежнасці маладой дзяржавы, гатовы вынесці часовыя цяжкасці на гэтым доўгім і цярністым шляху.

Пытаннямі, звязанымі з праблемай нацыянальнай самасвядомасці, займаюцца філосафы, этнографы, этнапсіхолагі, спецыялісты іншых галін навукі. На жаль, ні ў адной з прац няма больш-менш глыбокага, навукова дакладнага вызначэння гэтага важнага паняцця, хоць многія аўтары выкарыстоўваюць яго, так сказаць, на ўзроўні эмпірыкі.

На аснове сучасных даследаванняў складваецца ўяўленне аб нацыянальнай самасвядомасці як аб складаным па сваёй структуры і неадназначным для разумення духоўным утварэнні ў грамадскім жыцці. Яна ўключае ў сябе пачуцці і думкі этнічнай прыналежнасці людзей, прыхільнасці іх да нацыянальных каштоўнасцей мінулага і сучаснага, да культуры і мовы, любоў да родных мясцін, да Бацькаўшчыны. Фарміруючыся адначасова і разам з узнікненнем нацый у працэсе асэнсавання рэальных умоў і абставін гістарычнай эпохі, нацыянальная самасвядомасць набывае значэнне важнага духоўнага фактара, што замацоўвае і развівае этнічны і сацыяльны набытак народа.

У гэтым артыкуле зроблена спроба прасачыць працэс усведамлення сябе беларусамі тых нашых землякоў, якія па волі лёсу на рубяжы XIX—XX стагоддзяў апынуліся за межамі Бацькаўшчыны.

У канцы мінулага стагоддзя дзесяткі тысяч беларусаў у пошуках *лепшай долі накіроўваліся* ў розныя канцы Расійскай імперыі. Іх можна было сустрэць на буйных прадпрыемствах і будоўлях Пецярбурга, тэкстыльных фабрыках і чыгуначных дэпо Масквы, металургічных заводах Урала, шахтах Данбаса, нафтапромыслах Баку, портах Рыгі і Адэсы, цукровых заводах Украіны. Шмат маладых людзей з Беларусі вучыліся ў вышэйшых навучальных установах Пецярбурга, Масквы, Кіева, Харкава, Адэсы, Львова, Тарту, Рыгі, Варшавы. У некаторых месцах канцэнтрацыя беларусаў была даволі значнай. Напрыклад, у сталіцы Расіі іх налічвалася каля 25 тысяч, у Маскве каля 6 тысяч, у Данбасе — 5,5 тысячы, у Кіеве — 4 тысячы, у Адэсе — больш за 1 тысячу. Факты сведчаць пра тое, што многія з іх не парывалі сувязей з Бацькаўшчынай: вялі перапіску са сваякамі, знаёмымі, перыядычна прыязджалі ў родныя мясціны. Архіўныя дакументы пераканаўча сведчаць і аб актыўным удзеле нашых землякоў у барацьбе з самадзяржаўем у розных рэгіёнах імперыі. Асабліва ярка гэта праявілася ў рэвалюцыі 1905—1907 гадоў.

"Калі ў памятны 1905 год зрабілася завіруха, — пісаў Я. Купала, — калі ў Расіі ў кожнага чалавека будзіцца душа да новага жыцця, да новага шчасця, — то і ў беларуса будзіцца стала пачуццё свайго "я", стала лунаць доўга дрэмлючая думка, што і мы людзі". 1905 год з'явіўся, па словах М. Багдановіча, вяхой, якая адзначала пункт пераломy ў гісторыі беларускага Адраджэння. Галоўную ролю ў ім адыграла маладая беларуская інтэлігенцыя, нацыянальныя пачуцці якой, дзякуючы адукаванасці, былі асабліва моцныя. Аб'яднаўшы выхадцаў з розных слаёў грамадства, пераважна непрывілеяваных, цесна звязаная з дэмакратычнымі коламі, яна змагла стаць выразніцай інтарэсаў беларускага народа, актыўна фарміравала яго нацыянальна-патрыятычную свядомасць. Важна адзначыць наступнае. Большасць дыпламаваных спецыялістаў рыхтавалася ва універсітэтах і інстытутах Расіі, Украіны, Прыбалтыкі, Польшчы. Знаходжанне за межамі Бацькаўшчыны, засваенне культурнага вопыту суседніх народаў паслужылі прычынай своеасаблівай асабістай "драмы" часткі беларускіх інтэлігентаў. Пасля вяртання на радзіму яны не заўсёды маглі знайсці прымяненне сваім сілам у адпаведнасці з атрыманай кваліфікацыяй, таму што выбар быў абмежаваны магчымасцямі тагачаснага беларускага жыцця. Частка беларускай інтэлігенцыі вымушана заставалася працаваць за межамі сваёй краіны. Многія з іх амаль усё жыццё разрываліся паміж імкненнем служыць свайму народу і чужым асяроддзем, у якім спрабавалі адаптавацца. Гэтыя настроі асабліва ярка праявіліся ў лістах чытачоў "Нашай нівы".

Зараз ужо агульнапрызнана роля гэтай газеты ў нацыянальным Адраджэнні ў пачатку XX стагоддзя. Яна пастаянна заклікала інтэлігенцыю, усіх беларусаў, дзе б яны ні жылі, да памяці, будзіла іх нацыянальную самасвядомасць.

"Усе, каму дарага і блізка справа жыцця і адраджэння Беларусі і беларусаў, выпісвайце, чытайце і шырце беларускую газету "Наша ніва". Гэта дума думак і патрэб Беларусі". Такую рэкламную аб'яву можна было сустрэць на старонках беларускіх і ўкраінскіх выданняў. І сябры газеты, шчырыя прыхільнікі Беларусі, шырылі яе. Тыраж 4,5 тысячы экземпляраў разыходзіўся поўнасцю. Беларускую газету чыталі ў Пецярбургу, Кіеве, Пскове, Ноўгарадзе, Новачаркаску, Сочы, Ялце, Севастопалі, Маскве, Харкаве, Екацярынаславе, Адэсе, Канатопе, Рызе, Лібаве, Рэвелі (Таліне), Юр'еве (Тарту), Варшаве, Лодзі. Яна мела падпісчыкаў у Валынскай, Палтаўскай, Чарнігаўскай губернях, а таксама ў Цвярской, Тульскай, Самарскай, Томскай, Іркуцкай, Вобласці войска Данскога. "Наша ніва" рассылалася падпісчыкам у Празе, Парыжы, Лондане, Нью-Йорку, на франтах першай сусветнай вайны.

Падпісчыкамі за межамі Беларусі былі яе сыны і дочкі, якіх лёс раскідаў па розных кутках Расійскай імперыі і за яе межамі. Для іх газета была жывой нітачкай, якая злучала з далёкай Бацькаўшчынай. "Хоць мы і далёка ад сваёй роднай старонкі, але газету "Наша ніва" чытаем і вельмі рады, як пачуем сваё роднае слова і тую мову, у каторай узгадаваліся", — пісала група беларусаў са станцыі Красноўка, што ў Данбасе. Я. Журба з Украіны ў сваім лісце ў рэдакцыю прызнаваўся: "Вялізнай уцехай бываюць тыя хвіліны, калі я чытаю родную газэціну: мыслямі пераносешся ў мужыцкія вёскі, у бедныя халодныя хаты, устае і прыходзіць прад маімі вачыма ўсё блізкае, усё роднае". "Сыны Белай Русі" — так падпісалі свой допіс у газету студэнты настаўніцкага інстытута з Феадосіі. У ім маладыя беларусы адзначалі: "Што б ні казалі проці вас ворагі беларускага слова, верце і ведайце, што ўсе тыя, што любяць народ, лічаць вашу працу — святой працай, бо слова аб усякай рэчы, пачутае беларусам у сваёй роднай мове, куды больш зразумела і бліжэй, чым сказанае ў мове чужой; слова роднае чутно не толькі розумам чалавека, але і сэрцам... Працуйце ж у роднай мове на доўгіе годы".

Усе гэтыя лісты сведчылі пра любоў беларусаў да нацыянальнай газеты, да Бацькаўшчыны.

Лісты ў рэдакцыю, шматлікія артыкулы з'яўляюцца каштоўнай крыніцай для вывучэння працэсу этнічнага самаўсведамлення беларусаў, асаблівасцей іх нацыянальнага характару.

Многія беларусы, што жылі далёка ад Бацькаўшчыны, не забывалі сваёй нацыянальнай прыналежнасці. Раскіданыя па розных прадпрыемствах, яны імкнуліся захаваць на чужыне адзінства — як хвалюючы ўспамін, як натхняючую надзею. Для гэтага яны стваралі свае арганізацыі, касы ўзаемадапамогі, дабрачынныя таварыствы. Адной з форм дзейнасці такіх таварыстваў былі харавыя спевы і арганізацыя літаратурна-музычных вечарын на роднай мове. Цяга да роднай мовы, літаратуры, мастацтва служыла магутным фактарам развіцця самасвядомасці народа.

Студэнты-беларусы аб'ядноўваліся ў зямляцтвы. Апошнія адыгралі станоўчую ролю ў вывучэнні роднага краю і папулярызацыі ведаў аб яго прыродзе, гісторыі, насельніцтве, культуры. Літаратура і мастацтва займалі значнае месца ў жыцці студэнцкіх суполак. На жаль, гісторыкі пакуль глыбока не даследавалі культурнае жыццё беларусаў у дыяспары. Цікавыя факты сустракаюцца на старонках "Нашай нівы" і ва ўспамінах удзельнікаў суполак у Пецярбургу.

У сталіцы Расіі дзейнічалі гродзенскае, магілёўскае, віцебскае, бабруйскае і іншыя зямляцтвы. Кожнае з іх мела свае групы і суполкі. З 1910 года яны пачалі наладжваць "беларускія вечарынкі". Цётка — удзельніца гэтых сустрэч хвалююча расказала аб іх арганізацыі чытачам "Нашай нівы" 4 сакавіка 1910 года. У прыватнасці, яна пісала: "Вось у Пецярбургу закінутыя далёка ад роднай старонкі беларусы не мелі нават апраткі сваёй. Дык кожны нёс, што меў, на першае беларускае ігрышча: хто паясок з Магілёўшчыны, хто світку з Віцебшчыны, хто сарочкі з Гродзеншчыны — і гэтак прыадзеліся. І дзіўна было, і радасна, што блізка з кожнага куточка Беларусі прыслала свайго сына з дарам..." Найбольш вядомай і плённай была дзейнасць гуртка Пецярбургскага універсітэта. Яго драматычнай трупай кіраваў Б. Эпімах-Шыпіла. За некалькі гадоў яго стараннямі студэнты падрыхтавалі некалькі спектакляў, у тым ліку і славутую "Паўлінку" Я. Купалы, які падтрымліваў цесныя сувязі з пецярбургскімі беларусамі. Зачараваны майстэрствам землякоў, паэт даў захапляючы водзыў у "Нашай ніве". Вялікай падзеяй для пецярбургскіх беларусаў быў прыезд у горад на Няве тэатра І. Буйніцкага. Беларускія артысты двойчы выступалі ў сталіцы Расіі. Першы раз у лютым 1911 года. Атмасферу, якая панавала ў зале, вельмі добра перадаў Я. Купала на старонках "Нашай нівы" 24 лютага 1911 года. Паэт пісаў: "Зал "Пальма" прадстаўляў сабой маленькую часцінку Беларусі: беларуская гутарка, беларускія танцы, беларускія нацыянальныя апраткі. І напраўдзе, не аднаму беларусу гэты вечар перанёс думкі ў яго родную старонку... Беларускія нявыдуманыя апраткі змяшаліся з ядвабнымі сукнамі і чорнымі сурдутамі гасцей, і здавалася, што не было тут ні пана, ні хама, а былі толькі людзі і людзі. Весела і радасна чулася на сэрцы, гледзячы на гэтую грамаду, каторая ў гэтым зале жыла як бы адной думкай нечагась святога, братняга".

Ёсць звесткі аб "беларускіх вечарынках" і ў іншых гарадах Расіі. У маі 1912 года ў Кацярынаслаўскай губерні з вялікім поспехам выступала беларуская трупа пад кіраўніцтвам К. Сянько. "Наша ніва" пісала 31 мая: "Шчыра віталі нашых беларусаў украінцы; тэатр аж дрыжэў ад апладысментаў".

У сакавіку 1916 года "беларуская вечарынка" адбылася ў рускім горадзе Тамбове. Яе арганізатарамі былі ўдзельнікі Беларускага музычна-драматычнага гуртка з Вільні, якіх закінула ў гэты горад вайна. Былі паказаны камедыі "Модны шляхцюк" і "Як яны жаніліся", выступіў народны хор пад кіраўніцтвам П. Багдановіча, чыталіся вершы беларускіх паэтаў.

Дзейнасць Першай беларускай тэатральнай трупы, аматарскіх драматычных гурткоў адыграла значную ролю ў пашырэнні сярод беларусаў нацыянальнай свядомасці і пачуцця нацыянальнай годнасці.

Дзейнасць усіх гэтых аматарскіх калектываў была абумоўлена асветніцкімі задачамі беларускага грамадска-культурнага руху. Характар і кірунак іх творчасці вынікалі з пераканання ў неабходнасці асветы народа, уздыму яго культуры праз пазнанне і ўсведамленне свайго нацыянальнага духоўнага "я".

**Уладзімір ФІЛЯКОЎ.**

---

## *БЕЛАРУСЬ ПАСЛЯ ПАЎСТАННЯ 1863-1864 ГАДОЎ*

# ЧАС ПРАКЛЯТЫ І ПАКУТНЫ

**Нацыянальна-вызваленчы рух беларускага народа прайшоў доўгі і цяжкі шлях. Былі перыяды, калі здавалася, што беларусы будуць асіміляваны і перастануць існаваць як этнас. Пагроза зыходзіла як з захаду, з боку Польшчы, так і з усходу, з боку Расіі. Аўтар гэтага артыкула паспрабаваў разглядзець стан нацыянальнай свядомасці беларусаў у першае дзесяцігоддзе пасля паўстання 1863—1864 гадоў. Аснову артыкула склалі працы зарубежных, галоўным чынам, беларускіх эміграцкіх даследчыкаў.**

130 гадоў назад на Беларусі, у Польшчы і Літве пачалося паўстанне, якое звярнула на сябе ўвагу не толькі Еўропы, але ўпісана і ў сусветную гісторыю. Паўстанне 1863—1864 гадоў было патоплена ў крыві. Тысячы паўстанцаў загінулі ў барацьбе за свабоду, тысячы былі арыштаваны і засуджаны на няволю і катаргу. Як слушна заўважыў наш паэт Янка Лучына (Ян Неслухоўскі), на Беларусі амаль не было сям'і, якая не аплаквала б хоць аднаго з сваіх членаў, што загінуў у паўстанні, быў пасаджаны ў турму, пакутаваў сярод ільдоў Сібіры ці ў капальнях Урала.

Адным з галоўных вынікаў паўстання 1863—1864 гадоў, на думку вядомага даследчыка гісторыі Беларусі з ЗША Янкі Запрудніка, было тое, што яно ўзварухнула патрыятычныя сілы беларускага народа ды выклікала інтэнсіўнае вывучэнне Паўночна-Заходняга краю з боку расійскага і польскага. Зразумела, расійскія даследчыкі імкнуліся даказаць, што беларускія землі з'яўляюцца неад'емнай часткай Расіі. Супраць гэтага выступалі польскія аўтары, якія спрабавалі абвергнуць расійскі характар "польскіх гістарычных зямель у граніцах 1772 года".

Прафесар шэрагу амерыканскіх універсітэтаў Ніколас Вакар, аўтар некалькіх прац па гісторыі Беларусі, пісаў, што адным з вынікаў паўстання 1863—1864 гадоў было поўнае выдаленне палякаў з Паўночна-Заходняга краю. Рабілася гэта па той прычыне, што яны разглядаліся як чужынцы ў адносінах да мясцовага беларускага насельніцтва. Палякі выдаляліся з Паўночна-Заходняга краю не толькі таму, што яны былі "чужынцамі", а галоўнае таму, што з'яўляліся канкурэнтамі рускіх у барацьбе за валоданне беларускімі землямі. Неабходна было тэрмінова замяніць польскіх чыноўнікаў, настаўнікаў, святароў расійскімі. "О водворении русского элемента в Северо-Западном крае" — так адмыслова гучаў адзін з указаў Аляксандра II. Аднак расійскія чыноўнікі не надта ахвотна ехалі ў невядомы край. Каб прыцягнуць іх на Беларусь, ім пачалі даваць большыя пенсіі і частыя ўзнагароды. Тады, па словах Я.Станкевіча, паплыў на Беларусь найгоршы элемент.

Адным з вынікаў паўстання 1863—1864 гадоў было тое, што русіфікацыя беларусаў стала афіцыйнай палітыкай царскага ўрада. Палітыка русіфікацыі сягае ў канец XVIII стагоддзя, у часы падзелаў Рэчы Паспалітай, у выніку якіх беларускія землі адышлі да Расійскай імперыі. Скасаванне магдэбургскага права ў беларускіх гарадах (1783), закрыццё Віленскага універсітэта (1832), скасаванне вуніі (1839), адмена Літоўскага статута (1840), забарона ў школе і царкве беларускай мовы, самой назвы "Беларусь" і нават "беларускія губерні" і перайменаванне іх у Паўночна-Заходні край — усё гэта звенні аднаго ланцуга пад назвай русіфікацыя. 14 траўня 1864 года, калі паўстанне яшчэ працягвалася, М.Мураўёў прадставіў праект русіфікацыі Беларусі, які цар прыняў як праграму дзеяння. Палітыка русіфікацыі праводзілася ў адносінах да ўсіх народаў Расійскай імперыі, але найбольш інтэнсіўнай яна была на Украіне і Беларусі.

На Беларусі не засталося ніводнай вышэйшай навучальнай установы. Пасля паўстання 1863—1864 гадоў пачалося масавае ўвядзенне расійскіх пачатковых школ, у якія беларускае жыхарства не хацела пасылаць сваіх дзяцей. Забараніўшы ўсё беларускае, адзначыў Я.Станкевіч, фізічна знішчыўшы пасля аднаго (1830—1831) і другога (1863—1864) паўстанняў прагрэсіўную частку беларускай інтэлігенцыі, Расія дамаглася таго, што нацыянальна свядомымі засталіся толькі адзінкі.

Побач з гвалтоўнай русіфікацыяй можна было назіраць і натуральную дэнацыяналізацыю некаторых слаёў беларускага насельніцтва. Дробнапамеснае дваранства і інтэлігенцыя, вызваленыя з-пад польскага культурнага апякунства, былі, па словах Н.Вакара, так хутка "амаскоўлены" і "апецярбуржаны", як яны былі апалячаны ў мінулым. Па даных амерыканскага даследчыка, толькі на працягу аднаго года (1865—1866) каля 30000 вядомых дваран перайшлі з каталіцызму ў праваслаўе.

Руская мова стала тады не толькі мовай адміністрацыі, асветы і права, як некалі польская, яна стала знакам культурнага і сацыяльнага адрознення. Дзецям, што атрымоўвалі адукацыю ў расійскіх навучальных установах, было сорамна за сваіх бацькоў, якія размаўлялі на простай, "мужыцкай" мове.

"Праклятым і пакутным" назваў гэты час Язэп Менскі. Нацыянальная няволя была без прасвету, і здавалася, што нацыянальная смерць будзе канцовым пунктам гэтага быцця. На шчасце, гэтага не здарылася, таму што носьбіт нашага нацыянальнага "я" — сялянства, баронячыся ад чужацкай напасці, замкнулася ў сабе ды прыхавала ў сваёй мове, звычаях, духовым складзе асновы беларускай нацыі.

Такім чынам, калі ў асяроддзі беларускай інтэлігенцыі нацыянальна свядомымі былі адзінкі, то масы беларускага сялянства, у бальшыні сваёй непісьменнага, зберaглі пачуццё нацыянальнай адметнасці.

**Анатоль МУХА.**

# КАРЦІНЫ ПАВІННЫ ЖЫЦЬ І РАДАВАЦЬ

*— Леанід Дзмітрыевіч, звесткі пра вас можна знайсці ў энцыклапедыі, у шматлікіх даведніках. Але ж заўсёды цікава пачуць гісторыю жыцця ад самога чалавека...*

— Нарадзіўся я 5 лютага 1923 года. Жыў, вучыўся, як усе, пакуль не пачалася вайна. Ваяваў, быў паранены, але пашанцавала —застаўся жывы. Пасля Перамогі паступіў у мастацкае вучылішча, потым зноў пашанцавала — трапіў у Мінскі мастацкі інстытут. Гады вучобы зараз успамінаю як самыя цікавыя ў жыцці. Атрымаўшы дыплом, вырашыў, што гэтага дастаткова, каб маляваць так, як я хачу, але ж спачатку мае карціны выклікалі спрэчкі і нават непрыманне. Быў 1960 год, але складанасці ішлі не ад рэжыму, на што зараз многія спасылаюцца, маўляў, "улады не давалі працаваць, як хацелася б". Не, мне здаецца, што жыццё, у першую чаргу, ускладнялі адносіны паміж мастакамі, паміж традыцыямі таго, што было ўчора, і тым, што ўзнікала новае. Адны шчыра адстойвалі свае пазіцыі, а другія зыходзілі з уласных амбіцый. Дарэчы, мне здаецца, што менавіта такое супрацьстаянне нарадзіла тады многіх цікавых мастакоў. І зноў мне пашанцавала — я выстаўляюся ў Маскве, быў удзельнікам амаль усіх усесаюзных выстаў, мае работы былі добра ўспрыняты прэсай. Тады ж я з сябрамі, а потым і адзін, ездзіў па ўсёй краіне, бачыў розныя рэгіёны, знаёміўся з тым, што рабілі іншыя мастакі. Гэта дало велізарны вопыт, я пабачыў новыя месцы, новыя фарбы — Сярэдняя Азія і Поўнач, Каўказ і Эстонія.

*— Напэўна, кожнае з гэтых месцаў для вас мае сваю фарбу?*

— Так, як кожны край мае сваю мелодыю, так у яго ёсць і свой каляровы лейтматыў. Калі Сярэдняя Азія асацыіруецца з цёплымі, мяккімі колерамі, то Поўнач — з халоднымі, строгімі. Я прайшоў шлях, па якому некалі ішлі лепшыя мастакі краіны, атрымаў магчымасць разабрацца ў сабе, глыбей зразумець людзей. Але ж калі вярнуўся ў Беларусь і зноў убачыў і яе прыгажосць, і цёплыя адносіны паміж людзьмі, з'явілася думка, што можа і хадзіць далёка не трэба, можна і на месцы разабрацца, што добра, а што не вельмі.

*— Разабрацца дома прасцей, калі маеш магчымасць параўноўваць...*

— Напэўна, так. І зараз мне здаецца, што на многіх маладых мастаках, якія нядаўна скончылі наш інстытут, адаб'ецца недахоп інфармацыі пра жыццё ў іншых



краінах. Зараз павандраваць так, як некалі рабілі мы, будзе вельмі складана і з-за дарагоўлі і з-за межаў, якіх робіцца ўсё больш. Лічу, што і тут мне проста пашанцавала. Аднак перакананы: наша Беларусь, яе людзі, гісторыя таксама могуць даць вельмі багаты матэрыял для творчасці.

*— Пакуль мы з вамі гаварылі, вы не раз паўтарылі словы "мне пашанцавала". Якую ролю адыграла шанцаванне ў вашым жыцці?*

— Шанцаванне ў многім залежыць ад самога чалавека, ад яго інтуітыўнай здольнасці разбірацца ў жыццёвых сітуацыях. Важна і тое, як чалавек выкарыстае спрыяльныя абставіны. Але ж ёсць мусіць, і чыстае шанцаванне, ёсць нейкая сіла, што кіруе чалавекам, дапамагае яму. Калі ўспамінаю вайну, то разумею, што з тых перыпетый, у якія даводзілася трапляць, выйсці жывым магло дапамагчы толькі шчасце.

*— Мне здаецца, што часта тое, што называюць шанцаваннем, мы доўга і старанна рыхтуем сваімі рукамі.*

— Так, калі я сустрэў добрага чалавека, я назаву гэта шчасцем. Але ж я сам доўга шукаў чалавека, які б мне "падыходзіў", быў бы падобным на мяне. Таксема ж і з раёнам, у якім жывеш, з кватэрай, жонкай, работай.

Пра сябе я расказаў вам у крыху аптымістычных тонах, але ж было ў мяне шмат складанасцей і ў жыцці, і ў вучобе, і, канешне, гэта пакінула свой след. Што ж, цяжкасці дапамагаюць больш востра адчуваць час.

*— Часам гавораць, жыццё такое, якім мы яго ўяўляем. І ваш лёс, менавіта такі, як вы пра яго гаворыце. Карціны вашы вельмі радасныя мусіць таму, што і жыццё вы ўспрымаеце яркім і шматколерным. З узростам і вопытам да чалавека прыходзіць стома. Яна прыглушае фарбы, і асноўнай становіцца шэрая. Вашы ж карціны не страцілі ні яркасці, ні светласці...*

— Я думаю, што ўсё залежыць ад асобы мастака. Сённяшняе наша жыццё вельмі цяжкае, складанае, але ж нельга забываць, што ёсць ты, ёсць любімыя людзі, прыгожыя жанчыны, мастацтва. Усё гэта вельмі важна, і нельга дазваляць бытавым цяжкасцям перамагчы цябе. У час вайны аднойчы часць, у якой я ваяваў, сустрэлася з рэйдам Каўпака. Чацвёра нас сабралася ў вясковай хаце. І тую ноч я не забуду ніколі. Дзіўны месяц, яркія зоркі, цішыня, і нечакана нехта заспяваў песню... Падалося, што няма вайны, а ёсць толькі гэты неверагодны спакой і ціхая песня. А зусім жа побач быў праціўнік, кроў, боль, але ж і жыццё працягвалася. Яно ёсць і будзе заўсёды. І толькі ад нас залежыць, што мы здолеем у ім разгледзець — толькі цяжкасці і складанасці, ці прыгажосць, чысціню, свежыя фарбы.

*— У вашай творчасці вельмі шырокі дыяпазон — ад работ пра Леніна да партрэта Булак-Балаховіча. Як вы гэта тлумачыце?*

— У першую чаргу, у героях сваіх твораў я бачу асоб. Правадыроў таксама можна паказваць па-рознаму. У армянскім музеі ёсць партрэт Леніна работы Пятрова-Водкіна. Гэта не правадыр, не ідал, якому пакланяюцца, а проста чалавек, што зацікавіў мастака. І згадзіцеся, гэта таксама мае права на існаванне. Можна доўга спрачацца пра тое, якім быў Ленін, але несумненна адно — ён быў асобай. Таксама ж, як і Булак-Балаховіч. Пра яго гавораць і пішуць рознае: адны называюць яго бандытам, другія — вызваліцелем. А мяне ён прывабіў у першую чаргу, як неардынарная, шматбаковая асоба.

*— Як вы ставіцеся да таго, што сёння многія мастакі выракаюцца сваіх былых работ і перакананняў?*

---

*ДА 100-годдзя З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ Максіма ГАРЭЦКАГА*

# ПРАМЕНЬ ВЕРЫ Ў ЗАЎТРАШНІ ДЗЕНЬ

Сярод тых, хто стаяў ля вытокаў беларускага адраджэння, змагаўся за права гаварыць на матчынай мове, мець гонар беларусам звацца, мець сваю культуру і навуку, эканоміку ў вольнай Бацькаўшчыне, быў сын беднага селяніна з вёскі Малая Багацькаўка, што на Магілёўшчыне, сапраўдны волат духу, асветнік, змагар за светлую долю басотнага і гаротнага народа Беларусі Максім Гарэцкі. Настаўнік, пісьменнік, вучоны, культурны дзеяч — ён прамы паслядоўнік спадчыны Янкі Купалы, Якуба Коласа, Змітрака Бядулі. Яго талент мнагагранны, разнастайны і высока нацыянальны. Ён шчыры, свядомы беларус, прадбачлівы і адказны за будучыню сваіх нашчадкаў. Перада мною "Хрэстаматыя беларускай літаратуры. XI век — 1905 год". Віленскае беларускае выдавецтва Б. Клецкіна. 1922 год. Аўтар Максім Гарэцкі. На першай старонцы перад пасвячэннем запіс з дзённіка за 1922 год Ганны Гарэцкай.

... "Узноў заскрабло, забалела, зашчаміла на сэрцы. І чаго толькі? Чаго баліць яно, беднае? А ці таго, што кругом відзіць няпраўду, гора, слёзы бедных людзей?

Ужо ўсюды ўсё красуець. Дрэвы ўжо пачынаюць раскідацца. Траўка зеленееець, птушачкі пяюць. На магілках ужо паказваюцца цвяточкі з светла-зялёненькімі, нежненькімі і слабенькімі, і хіленькімі лісточкамі. Хмурымі кажуцца і красачкі на магілках, як бы і самі магілкі. Спяць у гэтых магілках людзічкі. Спіце, вечная памяць вам. Вы нічога не бачыце, што кругом вас, куды ні глянь, усё зеленееець, расцець, жывець і борыцца за жыццё, як калі-то баролісь і вы. Буду і я жыць, буду любіць і даражыць жыццём, і бароцца за жыццё, і памагаць жыць другім.

Багацькаўка! Мая мілая і ўмесце з тым пастылая Багацькаўка! Люблю тваіх мілых, слаўных, вясёлых дзетак, тужлівых старычкоў і вясёлых пявунняў-дзевак. Ненавіджу тваю гразь, няпрытульнасць. Скарэй нада набрацца сілухны і пачаць варушыць камні..."

"Яе дарагому вобразу, як памятку на магілку ў чужыне, гэтую кнігу пасвячаю. Брат".

У прадмове да хрэстаматыі аўтар слушна і на сягоння праўдзіва вызначае мэту гэтага унікальнага падручніка духоўнай спадчыны нашых прадзедаў у розных аспектах жыцця, уваскрашае дарагую, сівую мінуўшчыну... "Кніга больш-менш дапасована да маёй "Гісторыі беларускае літаратуры"... Гэтая спроба выпісак з літаратуры павінна хоць крыху задаволіць вялікую патрэбу ў падручнай гістарычна-літаратурнай хрэстаматыі". (М. Гарэцкі. Вільня, Базыліянскія муры, 1921—1922 гг.).

Аўтар сціпла вызначае свой важкі ўклад у скарбонку адраджэння сваёй нацыі. На мой погляд, гэты падручнік сугучны сённяшняму часу і мусіць быць настольнай кніжкай усіх беларусаў са шчырым і добрым сэрцам да сваёй Бацькаўшчыны. У вартасці гэтай чытанкі сумнявацца не трэба. Яна не палітызаваная, яна святая духоўнасць нязгаснай спадчыны народа. Змест хрэстаматыі шматбаковы, цікавы і галоўнае, карысны таму, хто хоча сэрцам дакрануцца да сваёй Маці-Беларусі. Мушу прасіць багатых дзядзькоў, адпаведныя ўстановы, каб гэтая кніга знайшла вялікую аўдыторыю чытачоў, дзеля гэтага толькі патрэбна яе перавыдаць не скупым тыражом. Каштоўнасць і аналіз вучэбніка зробяць спецыялісты, я толькі назаву для прыкладу некалькі твораў і прозвішчаў пісьменнікаў, змешчаных у хрэстаматыі: Царкоўна-славяншчына (хрэстам. Буслаева, 1861 г.); "Слова аб палку Ігараве"; Васіль Цяпінскі (з прадмовы да Евангелля 1570—1580 гг.); Сымон Будны. Пачатак "Катэхізіса" (1562 г.); Тодар Еўлашэўскі (1546—1604 гг.); Літоўскі статут (1529 г.— 1566 г. — 1588 г.); М. Сматрыцкі, К. Транквіліон, І. Галятоўскі, Л. Барановіч, А. Радзівілоўскі (з розных крыніц); С. Полацкі (хрэстам. Буслаева, 1861 г.); "Тарас на Парнасе"; У. Сыракомля ("Добрыя весці"); В. Дунін-Марцінкевіч ("Гапон" з пецярбургскага выдання); В. Каратынскі, А. Дарэўскі-Вярыга, А. Ельскі, Ф. Тапчэўскі, Ф. Багушэвіч і іншыя асветнікі, сабраныя руплівай рукою Максіма Гарэцкага, прысутнічаюць у Хрэстаматыі беларускай літаратуры.

Званар беларускай культуры надаваў вялікае значэнне абуджэнню нацыянальнай свядомасці беларусаў, заклікаў народ прачнуцца "ад дрымоты", загукаць вольнымі грудзьмі на шырокіх прасторах Бацькаўшчыны. Ён ускладаў вялікую надзею на новае пакаленне, каб яно доўжыла нацыянальнае адраджэнне. Праблемы духоўнай спадчыны і гісторыі Беларусі — галоўная лінія ў яго творах. Змітрок Бядуля, калега Гарэцкага па газеце "Наша ніва", прыгадвае ў 1920 годзе: "... Максім Гарэцкі, як сын беларускага селяніна, выкладае ў сваіх творах усе асабістасці жывой беларускай душы. Галоўныя героі гавораць яго ўласнымі словамі, жывуць яго пачуццямі, на свет Божы глядзяць вачыма аўтора і на ўсялякія пытанні жыцця пытаюцца: "Што яно?", "Скуль яно?"...

Шмат стаяла пытанняў перад пісьменнікам у гады кіравання "вусатага крумкача", іх не менш і сягоння ў цяжкія дні балбатні, "прыхватызацыі" і беззаконня для выбраных асобаў, якія набіваюць кішэні мільёнамі, гандлюючы народным дабром. Цяпер хоць можна нейкім чынам пагукаць, не аглядвацца, як заяц, каб не трапіць ваўку ў зубы. Тады ж толькі мужныя сыны маглі адкрыта выказаць нязгоду, "знайсці тыя ключы, што захаваны на дне глыбокай балотнай зыбухі". Дзеля той праўды з Савецкай Расіі ў 1920 годзе паведамлялася: "Леніну ўдалося ўгаварыць Троцкага і Дзяржынскага прыняць новую праграму, паводле каторае ў Расеі павінна быць уведзена дэмакратычная сістэма ўпраўлення. Праграма Леніна прызнае свабодны гандаль і права ўласнасці для прыватных асоб..."

Выходзіць, Максім Гарэцкі амаль што жыў і працаваў па Леніну. Хацеў, каб і яго народ меў гонар людзьмі звацца, меў сваю культуру, гісторыю, незалежнасць. У сваіх творах, асабліва ў аповесці "Дзве душы", пісьменнік, як сказаў Бядуля, "стараўся адмаляваць складаную эпоху рэвалюцыі з яе класавай барацьбой, з перыядам беларускага адраджэння".

Максім Гарэцкі пачаў пісаць у 1913 годзе ў газеце "Наша ніва" і адразу звярнуў на сябе ўвагу сваім самабытным стылем, сваімі асабістымі магілёўскімі выразамі і арыгінальным складам малявання чалавечай душы. І праз усё жыццё (яно было складанае, суровае,.. трагічнае) пранёс любоў да роднай Багацькаўкі, да Маці-Беларусі. Ён светлы прамень веры ў заўтрашні дзень Рэспублікі Беларусь.

**Сымон БЕЛЫ.**



— Выракацца сваіх работ — тое ж самае, што выракацца самога сябе. Некалі я пісаў карціну "Рэвалюцыя". Ну была ж яна, рэвалюцыя, і яе ўплыў мы адчуваем на сабе да гэтага часу. І такая падзея не магла не быць адлюстравана ў творчасці мастакоў. Больш за 70 гадоў існавала сістэма, і жыць з фігай у кішэні столькі год немагчыма! Не трэба зараз навешваць ярлыкі, не трэба і закрэсліваць тое, што рабілі ўсё жыццё.

*— Летась Міжнародны біяграфічны цэнтр у Кембрыджы назваў вас і яшчэ чацвярых беларускіх мастакоў "Чалавекам года". Чым, на вашу думку, можна вытлумачыць такую з'яву?*

— Па-першае, тым, што за апошнія гады наш тэатральна-мастацкі інстытут выхаваў нямала добрых маладых мастакоў, па-другое, Мінск заўсёды меў даволі высокі культурны ўзровень. Да таго ж, мы маем вельмі добрыя традыцыі. - Паплаўскі, Паслядовіч, Ахрэмчык былі выдатнымі папярэднікамі Селешчука, Савіча. На моцным падмурку будуецца сённяшні поспех маладых. Беларускае мастацтва ўяўляе цікавасць не толькі для нас. Карціны нашых мастакоў купляюць і выстаўляюць у галерэях Фінляндыі, Францыі, Італіі, Амерыкі, Аўстраліі. З'явілася магчымасць прадаваць свае работы, чым нас, дарэчы, часта папракаюць. Але ж для любога майстра вельмі важна, калі яго творы ўбачаць не толькі на радзіме. Мастацтва павінна служыць сваёй краіне, расказваючы пра яе ўсяму свету. Гэта — да гонару нашага беларускага дома. Але і дома павінны думаць і помніць пра сваіх мастакоў. І калі работы добрыя і цікавыя — набываць іх і выстаўляць. Мастацтву патрэбна шырокая аўдыторыя, карціны павінны жыць і радаваць, а не ляжаць у запасніках.

*— Калі чалавек, прыехаўшы ў Мінск, захоча пазнаёміцца з беларускім жывапісам, куды яму варта пайсці?*

— Калі ён прыйдзе ў Дзяржаўны мастацкі музей і пацікавіцца, ці ёсць у беларусаў нацыянальны жывапіс, графіка, ці прыкладное мастацтва, то ён зразумее, што тут — пустыня. Беларускага мастацтва няма і ніколі не было. Праўда, у Акадэміі навук ёсць вельмі цікавы "склад" твораў мастацтва. Многія работы стаяць у запасніках, памяшканнях, якія не адпавядаюць нормам захавання твораў жывапісу. А сапраўднай мастацкай галерэі пакуль што ў рэспубліцы няма. І ўсё ж, нягледзячы ні на што, я веру, што калі-небудзь яна абавязкова будзе, і мінчане, і нашы госці змогуць пазнаёміцца з лепшымі творамі беларускага мастацтва.

*— Дзякуй за інтэрв'ю, Леанід Дзмітрыевіч.*

Гутарыла Веранiка ЧАРКАСАВА.

**НА ЗДЫМКАХ:** работы Л. ШЧАМЯЛЁВА "Цудоўнае лета" і "Развітанне".

## НАПІСАНАЕ ЗАСТАНЕЦЦА

Прэзентацыя кнігі Максіма Гарэцкага "Гісторыя беларускай літаратуры", якая прайшла ў Нацыянальнай бібліятэцы рэспублікі, пачаліся ўрачыстасці, прысвечаныя 100-годдзю з дня нараджэння пісьменніка.

Кніга, напісаная Гарэцкім у 27-гадовым узросце, уключае ў сябе перыядызацыю нацыянальнай літаратуры, навуковую ацэнку этапаў яе развіцця, характарыстыку творчасці пісьменнікаў. На думку літаратуразнаўцаў, гэта выданне можна назваць энцыклапедыяй беларускай літаратуры.

Дэлегацыя дзеячаў культуры Беларусі адправілася на Смаленшчыну, у горад Вязьму, у мясціны, дзе былі расстраляны разам з іншымі "ворагамі народа" наш выдатны зямляк. А 23 лютага ў тэатры імя Янкі Купалы прыхільнікі яго таленту збяруцца на ўрачысты вечар.

## У ВЯЗЕМСКІЯ КУРАПАТЫ

Так сталася, што напярэдадні стогадовага юбілею з дня нараджэння славутага пісьменніка мы памінаем яго ў дзень смерці. Не так даўно стала вядома яе дакладная дата — 10 лютага 1938 года. Дакументальна пацвердзілася і тое, што Максім Гарэцкі быў расстраляны, а не "памёр 20 сакавіка 1939 года ў Комі АССР", як раней паведамлялася яго родным.

Месца апошняга спачыну гонару беларускай літаратуры, найбольш верагодна, знаходзіцца ў раёне расстрэлаў і пахаванняў былых вязняў Вяземскай турмы. У гэтыя дні тут будзе ўстаноўлены камень з мемарыяльнай шыльдай. На ёй высечана і імя Максіма Гарэцкага.

У папярэдніх пошуках усіх магчымых звестак пра яго актыўна ўключыліся і мясцовыя ўлады. Асабістую зацікаўленасць праявіў старшыня выканкома горада Вязьмы (на Смаленшчыне) беларус Валерый Рудніцкі.

Удзельнікі дэлегацыі — Радзім Гарэцкі, Васіль Зуёнак, Іван Чыгрынаў, Уладзімір Гілеп і іншыя выступілі на літаратурнай вечарыне. Да камяня на брацкай магіле ахвяр леглі кветкі з Беларусі і жменя зямлі з Малой Багацькаўкі — радзімы пісьменніка.

У МАЛАДЗЕЧНЕ АДКРЫЎСЯ ДРАМТЭАТР

# НЕ ЗАГІНЕ МАСТАЦТВА — НЕ ЗАГІНЕ НАЦЫЯ

**Адкрыццё тэатра — заўсёды падзея, свята. Але зараз пры татальнай камерцыялізацыі жыцця, калі месца духоўных пошукаў упарта займаюць бязлітасна-жорсткія пошукі матэрыяльнага, гэтая вестка ўспрымаецца сапраўды як сенсацыя. У пачатку лютага ў Маладзечне адкрыўся Мінскі абласны драматычны тэатр.**

**"Значэнне гэтай падзеі мы ўсе зразумеем пазней, калі тэатр запрацуе на поўную моц", — зазначыў на ўрачыстай вечарыне старшыня Камісіі Вярхоўнага Савета па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны, паэт Ніл Гілевіч. Тэатр духоўна аб'ядноўвае людзей, сее ў душах зерне высакароднасці, святла і любові, якое не можа не прарасці высокімі пачуццямі і памкненнямі, добрымі справамі.**

**...Менш чым два гады спатрэбілася маладзечанцам, каб рэканструяваць Дом культуры, ператварыць яго ў тэатр. Крок гэты сам па сабе робіць гонар мясцовым уладам: у апошнія гады мы ўжо неяк прызвычаіліся, што культасветустановы, забываючы пра галоўнае, проста "зарабляюць грошы" — здаюць свае памяшканні ў арэнду багатым дзялкам з малых і сумесных прадпрыемстваў. Тут ад гэтай практыкі адмовіліся. У Маладзечне, горадзе з багатымі культурнымі традыцыямі, свядомай інтэлігенцыяй, інакш і не магло быць.**

**...Можна смела сцвярджаць, што тэатр з'явіўся на аснове народнага, і трэцяя частка яго пакуль невялікай трупы — непрафесійныя акцёры. Аднак хто сказаў, што майстэрства вызначаецца наяўнасцю дыплома! Гэта ж перш за ўсё талент, памножаны на карпатлівую працу... У дзень адкрыцця тэатра гледачы ўбачылі адразу дзве прэм"еры — спектаклі "Зямля" паводле паэмы Якуба Коласа "Новая зямля" і "Прымакі" паводле п"сы Янкі Купалы. Коласаўская паэма — твор даволі складаны для сцэнічнага ўвасаблення, тым не менш спектакль зроблены літаральна на адным дыханні. Немалая шаслуга ў гэтым артыстаў, дарослых і дзяцей.**

**А "Прымакі" — плён творчасці маладых артыстаў. Купалаўскі "сцэнічны жарт" нікога не пакінуў абыякавым.**

**Маладзечанцы паставілі таксама "Я стаю ля рэстарана" Э.Радзінскага, "Камедыю" Ф.Аляхновіча, спектаклі для дзяцей "Пунсовая кветачка", "Чарадзейная сіла", "Гусяня Дарафей".**

**...Па даўняй традыцыі, тэатр пачаўся з малітвы да Бога, з асвячэння. Святар айцец Ян нагадаў словы з Біблії: усё мне дазволена, але не ўсё карысна. "Захоўвайце нашы адвечныя каштоўнасці, ратуйце душы чалавечыя", — звярнуўся ён да творцаў.**

**Калі ў цяжкую гадзіну адкрываецца тэатр — значыць, ажываем. Хочацца верыць, што новы тэатр знойдзе сваё аблічча, набудзе адметны почырк. І галоўнае, стане сапраўдным Храмам мастацтва: не загіне мастацтва — не загіне і нацыя.**

**Здымкі А. БАСАВА зроблены ў дзень адкрыцця тэатра.**







## ЛІСТКІ З КАЛЕНДАРА




**22 лютага, панядзелак**

### ЧАТЫРЫ ЮБІЛЕІ "ПАЎЛІНКІ"

**Камедыя "Паўлінка" да гэтага часу — любімы ў гледача твор нашай нацыянальнай драматургіі. Кожны новы асеннезімовы сезон тэатр імя Я.Купалы ў Мінску распачынае гэтай п"есай. А пачынаўся сцэнічны лёс "Паўлінкі" ў 1913 годзе. Таму сёлета — чатыры 80-гадовыя юбілеі.**

**Першая пастаноўка — 27 студзеня 1913 года (тут і далей стары стыль) у Вільні ў зале гімнастычнага таварыства "Сокал". Ставіў Беларускі музычнадраматычны гуртон. Ролю Паўлінкі выконвала Зося Маркевіч (Маркевічанка). На прэм"еры быў Купала, які прыехаў з Пецярбурга. Яму быў уручаны залаты гадзіннік з надпісам: "Аўтару "Паўлінкі" віленскія беларусы 7 студзеня 1913 г." Я.Купала падаў Маркевічанцы на сцэну букет кветак.**

**Другі раз "Паўлінка" была паказана 9 лютага 1913 года ў Пецярбургу беларускім навукова-літаратурным гуртком студэнтаў у пастаноўцы артыста Александрынскага тэатра К.Бэкін-Драздова. Купала актыўна ўдзельнічаў у падрыхтоўцы спектакля. Ролі выконвлі: Паўлінка — П.Мядзёлка, Сцяпан Крыніцкі — К.Душэўскі, Пранцісь Пустарэвіч — У.Эпімах-Шыпіла, Адольф Быкоўскі — Л.Адамовіч, Якім Сарока — Л.Заяц, Альжбета — В.Клікoвіч, Агата — К.Эпімах-Шыпіла. Аўтар атрымаў гадзіннік з надпісам: "Бацьку "Паўлінкі" ад беларускіх студэнтаў".**

**Трэці паказ п"есы — 15 жніўня 1913 года ў Радашковічах. Іграла трупа, арганізаваная ў Мінску Ф.Ждановічам. У ролях: Паўлінка — А.Ліпецкая, Пустарэвіч — Янка Беларус (Я.Ждановіч), Якім — Ф.Ждановіч, Агата — Т.Русецкая, Быкоўскі — П.Акуліч. На спектаклі прысутнічаў Я.Купала. Землякі адразу пазнавалі, з каго спісаў ён каларытныя тыпы.**

**Чацвёрты раз "Паўлінка" на сцэне ў пачатку верасня 1913 года. Беларускі музычна-драматычны гуртон у Вільні пры непасрэдным удзеле Я.Купалы аднавіў пастаноўку. Ролі выконвалі: Паўлінка — П.Мядзёлка, Крыніцкі — А.Лявіцкі (Ядвігін Ш.), Пустарэвіч — Г.Грыгоніс, Якім — А.Залескі і інш.**

**З таго далёкага часу выдатны твор Я.Купалы не сходзіць з падмосткаў прафесійнай і самадзейнай сцэны як на Беларусі, так і за яе межамі.**

**Васіль ПЕТРУЧЭНЯ.**

## УЗОРЫ, ЯКІЯ НІХТО НЕ ПАЎТОРЫЦЬ

Памятаеце казку пра гаспадыню Меднай гары? Калі вас не пакінула абыякавым чарадзейная сіла малахітавай шкатулкі, прыходзьце на выставу камянёў, што экспануецца ў будынку геаграфічнага факультэта Беларускага універсітэта.

Усе чулі, што камень валодае надзвычайнымі якасцямі. Лічыцца, што ён абараняе ад нядобрага. Так гэта ці не, кожны можа праверыць на сабе. Трэба толькі набыць на выставе падыходзячы вам па задыяку камень. За зусім невялікія па сённяшніх мерках грошы вы можаце купіць неапрацаваны аметыст, гранат. Вам прапануюць тут таксама ўпрыгажэнні з бурштыну — завушніцы, пацеркі, пярсцёнкі.



Мне здаецца, што экспанаты не могуць не ўразіць. Чалавек, а мастак у першую чаргу, імкнецца да гармоніі формы ў фарбах, прапорцыях. А прырода смела і проста стварыла яе і ў колеры кветкі, і неба, і каменя. Неапрацаваныя камяні здзіўляюць кожны раз высакароднасцю, чысцінёй колераў. Прырода стварае ўзоры, якія наўрад ці чалавек можа паўтарыць. Ён можа толькі падзівіцца яшчэ і яшчэ раз.

**Алена СПАСЮК.**

**НА ЗДЫМКУ:** экспанаты выставы.

## АБ ЧЫМ РАСКАЖА ШМАТТОМНАЕ ВЫДАННЕ "БЕЛАРУСЫ"

Ва ўмовах неабходнасці адраджэння беларускай нацыянальнай культуры, вывучэння яе каранёў і гісторыі, узнікла патрэбнасць у распрацоўцы і выданні шматтомнай серыі пад агульнай назвай "Беларусы", якая павінна даць чытачу на падставе новых падыходаў шырокую панараму вытокаў і сучаснага стану ўсіх галін народнай культуры беларускага этнасу. Асобныя тэмы гэтай серыі будуць прысвечаны пэўным галінам вытворчай дзейнасці народа, яго матэрыяльнай і духоўнай культуры, традыцыям грамадскага і сямейнага жыцця. Асобны том дасць магчымасць азнаёміцца з паходжаннем беларусаў і іх этнічнай гісторыяй ад старажытнасці да нашых дзён. У гэтай серыі чытач знойдзе шмат новых звестак, напрыклад, аб старажытных і пазнейшых шляхах зносін і транспартных сродках (сухапутных і водных), аб народных гульнях, вераваннях, абрадах, звычаях, аб беларусах у блізкім і далёкім замежжы і шмат аб чым іншым.

У выдавецтва АН Беларусі "Навука і тэхніка" ўжо здадзены том, які прысвечаны старажытным і больш познім заняткам беларусаў — промыслам і рамёствам. У гэтым томе асветлены збіральніцтва, бортніцтва, паляўніцтва, рыбалоўства, розныя дрэваапрацоўчыя рамёствы, пляценне, ткацтва, вышыўка, апрацоўка футра і скур і шмат што іншае. Адзін толькі пералік займае амаль старонку.

Заканчваецца праца і па падрыхтоўцы наступных двух тамоў, якія будуць прысвечаны этнагенезу і этнічнай гісторыі беларусаў, а таксама сям'і і сямейнаму быту беларускага народа. Да канца стагоддзя мяркуецца надрукаваць 10—15 тамоў навукова-папулярнага выдання "Беларусы".

## СПОРТ

### ЗААКІЯНСКАЕ ТУРНЭ

Футбалісты мінскага "Дынама"яшчэ не хутка вернуцца з турнэ па краінах Лацінскай Амерыкі. Яны праводзяць таварыскія сустрэчы і з нацыянальнымі, і з клубнымі камандамі.

Так, беларускія спартсмены згулялі ўнічыю з аднолькавым лікам 1:1 з футбалістамі Перу і Эквадора. Пасля прынялі ўдзел у міжнародным турніры ў Аргенціне, дзе выйшлі ў фінал і толькі па пенальці ўступілі мясцоваму клубу "Атлеціка" — 3:4.

### ТАК БЫ І ДАЛЕЙ

Беларускі канькабежац Ігар Жалязоўскі ўпэўнена лідзіруе ў розыгрышы Кубка свету ў бегу на дыстанцыю 1000 метраў.

У канцы лютага ў Японіі пройдзе першынство свету па спрынтарскаму мнагабор'ю. Шанцаў перамагчы ў ім, на думку спецыялістаў, больш за ўсё мае Ігар Жалязоўскі, які задае цяпер тон на ўсіх міжнародных спаборніцтвах.

### ВОСЬ ГЭТА ДЭБЮТ!

У Балгарыі праходзіць чэмпіянат свету па біятлону. Дэбютавалі на ім і зборныя Беларусі.

Ужо першы від праграмы прынёс сенсацыю. У каманднай гонцы на 15 кіламетраў сярод жанчын другое месца занялі нашы зямлячкі. Усяго 2,4 секунды не хапіла беларускам, каб заваяваць "золата".

Вось прозвішчы тых, хто заваяваў сярэбраныя медалі: Наталля Пермякова, Наталля Сычова, Наталля Рыжанкова і Святлана Парамыгіна. Мужчыны выступаюць пакуль не вельмі ўдала.

### РАШЭННЕ ФІДЭ

Міжнародная шахматная федэрацыя (ФІДЭ) прыняла рашэнне прысвоіць званні міжнародных майстраў групе шахматыстаў свету. У гэтым спісе ёсць і прадстаўнікі Рэспублікі Беларусь: Яўген Мачалаў, Аляксандр Рыскін і Сяргей Беразюк.



**Дзікія качкі, што круглы год жывуць у Мінску, сталі зусім ручнымі.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:
220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ
Ф. СКАРЫНЫ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку"
Тыраж 5 000 экз.
Індэкс 63854. Зак. 234.
Падпісана на друку 15.02.1993.